© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

№10 (12) Лістапад 1994 November Год выд. 2

# 74-я Гадавіна Слуцкага Паўстаньня

## Змагарныя дарогі

*У 1958 годзе Мікола Шчаглоў-Куліковіч так пісаў пра Слуцкае Паўстаньне:*

«За волю ў бой жыццё заве,
Завуць змагарныя дарогі!..»
(зь песьняў Краёвай Абароны)

Слуцкае паўстаньне! Якая велізарная падзея й як мала, нажаль, мы яшчэ ўглядаемся ў яе, як вузка, абмежавана яе прыймаем. Ці не ў натуры Беларуса, дзе любоў да бацькаўшчыны, гатоўнасьць заўсёды яе мужна, сьмела, аддана й станоўка бараніць складаў адну з асноўных рысаў, — трэба шукаць вытокаў гераічнай барацьбы слуцкіх паўстанцаў? Ці не зьяўляецца Слуцкае паўстаньне тым адбіткам і выразам, які пераканальна сьветчыць аб гераічным духу, што ўласьцівы нацыі й што звычайна хаваецца за сьціпласьцяй, скромнасьцяй, навет пакорнасьцяй вонкавага выгляду беларускага характару? Ці не адзін з вынікаў гэтага духу ёсьць і паўстаньне на Случчыне? Так. Толькі так, а ня йнакш! У той-жа час нам ніколі ня трэба забывацца на тое, што Слуцкае паўстаньне ня толькі тэрытарыяльная й дадзенай пары часу праява нацыянальнага змаганьня. Апошняя не стаіць асобна, ці ў баку, — яна, у гэтым няма ніякага сумлеву, арганічна павязана з агульнай гісторыяй вызвольнай барацьбы беларускага народу ў мінулым. Бойкі з татарамі, вайна з Масквою, зацятыя й няспынныя паўстаньні супраць Польшчы й Масквы на працягу колькіх стагодзьдзяў пад рознымі назовамі, імёны правадыроў Нябабы, Крывашапкі, Гаркушы, Галоты, Вашчылы й шмат іншых, слаўная эпапэя К. Каліноўскага, — усё гэта гістарычныя папярэднікі Слуцкай вялікай справы. Усё гэта змагарныя шляхі й дарогі.

Кажны год мы адзначаем дату Слуцкага паўстаньня, кажны год з горычай і болем прачытваем даўгі сьпіс слуцкіх ахвяраў; цішай, схіленьнем галаваў, жалобным напевам успамінаем Загінуўшых Герояў. Але, ці неператвараем мы часам дату Слуцкага змаганьня ў музэйную балонку гісторыі, ці не забываемся на тое, што яно зьяўляецца й цяпер вялікай патэнцыяльнай выбуховай сілай народу, ды што яно глядзіць і крочыць непасрэдна ў будучыню, і можа зусім недалёкую будучыню? Ёсьць небясьпека й таго, што цішa, схіленьне галавы й жалобныя напевы могуць застацца толькі выразам горкіх, сумных хвараў пры абыходзе Слуцкага паўстаньня, надаваць тут пасыўныя, мэмарыяльныя настроі. Ня можна, звычайна, адмовіць і апошняга, але было-б няправільным, навет шкодным, ня вылучыць і не падчыркнуць, што Слуцкае паўстаньне ня толькі памятка, падзея, алe й паказальны прыклад далейшага змаганьня, працяг гісторыі нацыянальна-вызвольнага беларускага руху, глеба для новых шляхоў і дарог. Слуцкае паўстаньне — палымяны сьцяг гэтага руху, што амыты сьвятою крывёю Слуцкіх Герояў, і толькі зь ім, з гэтым сьцягам, на гэтай плоднай глебе можа вырасьці й расьцьвісьці перамога народу, чаканая вякамі.

Слуцкае паўстаньне было ўзьнята супраць савецкай, бальшавіцкай улады, якая лічыць сябе народнай уладай, уладай рабочых, сялянаў. І гэта вельмі характэрна. Сярод случчакоў-паўстанцаў, як і сярод змагароў гістарычнага мінулага, знаходзіліся людзі рознага сацыяльнага становішча: сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя, навет — прадстаўнікі шляхэцкіх радоў, алe праславутай «клясавай барацьбы» паміж імі ня было. Перад вялікай і высокай нацыянальнай ідэяй і мэтай усе лічылі сябе роўнымі, кроўнымі братамі, выступалі, ішлі, заклікалі, змагаліся адзіным патокам. І нездарма бальшавікі гэтак баяцца гэтага адзінага нацыянальнага патоку, імкнуцца вычыркнуць і вынішчыць яго з нацыянальнай сьведамасьці народу, супрацьставячы яму сваю ілжывую тэорыю пралетарскага інтэрнацыяналізму, клясавай ненавісьці, тэорыю йснаваньня ў кажнай нацыі двух культур (пралетарскай і буржуазнай). Слуцкае паўстаньне, як і ўвесь нацыянальна-вызвольны рух, пераканальна сьветчыць, што галоўнай і істотнай праблемай паняволеных народаў ёсьць праблема нацыянальная, яе правільнае разьвязаньне. Што-ж датычыць праблемы сацыяльнае, дык яе палагодзіць свабодны народ без «дапамогі» бальшавікоў і клясавай ненавісьнай «тэорыі».

Хацелася-б тут яшчэ парушыць адно, на маю думку, важнае пытаньне, якое здавалася-б на першы пагляд пабочным у тэме, павязанай із Слуцкім паўстаньнем. Я кажу аб яшчэ аднэй характэрнай беларускай народнай рысе — паэтычнасьці, рамантычнасьці, якія асабліва маляўніча знайшлі сваё адлюстраваньне ў народнай творчасьці Беларусаў. Духам героікі, аб якім тут гаварылася ў пачатку артыкулу, прасякнуты многія беларускія народныя паданьні, казкі, песьні, пагаворкі. Паэтычна, з рамантычнай ахварбоўкай падаюць народныя складальнікі вобразы Беларуса, ягоныя думкі й мары аб роднай староначчы, на якую ён ня хоча й ня можа «прызабіцися ані ўначы сплючы, ані ўдзень хадзячы». Дзяцюк-Беларус — тут удалы малойчык з валявымі, мужнымі, станоўкімі якасьцямі, ён параўноўваецца із арлом, харобрым рыцарам:

«На кані Рыгорка едзе па лугох,
у Рыгоркі сокал у рукох,
Сам ён сізым арлом
Ды на шабельку апіраецца!»

Гістарычныя, ратныя, вайсковыя, жаўнерскія, бунтарскія, адходніцкія песьні беларусаў маляўніча расказваюць нам аб мужнай абароне Крычава ад татарскай навалы (XIII ст.), аб бітве пад Воршай з Масквою (XVI ст.), казацкіх паходах за волю, сялянскіх паўстаньнях (XVII—XVIII ст.) і г. д. Увесь гэты багаты матар'ял, дарэчы кажучы, мала зьбіраны й мала ведамы, нёс вялікую службу як у свае часы, калі адбываліся тыя ці іншыя падзеі, гэтак ня менш і на дыстанцыі часу. Ён абуджаў у народзе і ў паасобных людзей думкі й настроі да змаганьня за кветку шчасьця, за вольнае, заможнае жыцьцё. Мы ўсе дастаткова добра разумеем патрэбу, значаньне й узьдзеяньне падобных твораў.

І вось, сорамна ў гэтым прызнацца, Слуцкае паўстаньне яшчэ не знайшло адлюстраваньня ні ў нашых паэтаў, ні ў музыкаў. Між тым адзін толькі лёзунг Случчакоў: «Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», зьяўляецца вузорам ня толькі грамадзкай адданасьці, але й вузорам мастацкага хараства й прыгажосьці, здольным запасьці ў душу, знайсьці там адпаведны рэзананс. Я ведаю толькі адзін сцэнічны абразок Н. Арсеньневай, які мы ў свой час ставілі ў Клівэляндзе з моладзяй, ды песьню таго-ж аўтара, што прысьвечаная Слуцкаму паўстаньню (можа знойдзецца што яшчэ з адзінак). І справядліва скардзяцца нашыя беларускія асяродкі, што няма чым абыходзіць славутую дату, няма чым успомніць і адзначыць чыны беларускіх герояў яшчэ нядаўняга мінулага. Дык каму-ж, як ня нам заахвоціцца гэтым, папрацаваць тут. Стварыць вобразы Слуцкіх Змагароў, іх чынаў, сягаючы у будучыню — пачэснае заданьне для кажнага мастака. Гэта таксама вялікая справа ў змаганьні за волю, таксама змагарная дарога.

**М. Куліковіч**



Сцяг 1-га Слуцкага палка
(справа — Антон Сокал-Кутылоўскі)

## БЕЗ АПАЗІЦЫІ НЕЛЬГА. АЛЕ...

Сацыёлагі і палітолагі доўга яшчэ будуць шукаць адказ на няпростае пытанне аб тым, як радавы дырэктар саўгаса, які не дабіўся прыкметных дасягненняў у гаспадарчай дзейнасці (гэта не Арлоўскі, не нашчадак ягонай славы Старавойтаў, не адна з іншых «зорак» сельгасвытворчасці) — з такім ашаламляльным поспехам стаў Прэзідэнтам краіны. На гэта пытанне няма адназначнага адказу. Безумоўна, першаму Прэзідэнту дапамог загінаючы на корані былы ўрад, які сваёй нерашучасцю ў эканамічных зменах, абяцанкамі дапамогі ад вялікага суседа загнаў рэспубліку ў балота разрухі, а яе грамадзян прымусіў шукаць выратавання ў зневажальным гандлі ў блізкім і далёкім замежжы.

Ад крытыкі гэтага ўрада, безумоўна, трэба было чакаць поспеху, аб чым неадназоава заяўляў былы прэм'ер. Але былы ўрад крытыкавалі ўсе кандыдаты ў прэзідэнты. Прытым найбольш заўзята — двое. Але дасягнуў незвычайнага поспеху менавіта Аляксандр Рыгоравіч. Чаму ж прэзідэнтам не стаў Зянон Пазняк?

Не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, выкажу свае меркаванні. Пазняк ніколі не здолеў бы пераканаць народ Беларусі ў шчырасці свайго імкнення дасягнуць лепшага жыцця дэмакратычным шляхам, без крыві і слёз, без адкрыцця ўнутраных і знешніх франтоў. Яго знішчальныя прамовы зрабіліся крыху мякчэйшымі на зыходзе першага тура выбараў. Але яго каменны твар на тэлеэкране, дыктатарскі стыль паводзінаў, увесь яго рашучы выгляд падкрэслівалі, што гэты здольны чалавек не ўзнагароджаны Богам дарам кампрамісу, уважлівых адносінаў як да думкі дарадчыкаў, так і саперніка ў. Складвалася ўражанне, што толькі ён адзін ведае, на якой мове размаўляць беларусу, ён адзіны — знаўца беларускай граматыкі. Чаго ён дабіваецца, настойліва ўводзячы ва ўжытак такія польска-літоўскія словы, як «сойм», «парлямант», «Менск» і іншыя, якія рэжуць слых як нажом.

Гэтыя прыклады ствараюць у вачах людзей вобраз дзеяча дыктатарскага тыпу, які ў барацьбе за ўладу, за аднаму яму вядомую праўду не будзе разважаць, наклейваючы ярлыкі, арганізуючы «паляванне на ведзьмаў», будзе размаўляць з суседзямі на мове ультыматумаў.

Па ўсім відаць, што ён і далей не будзе мяняць сваіх звычак і па-ранейшаму будзе прадстаўляць у парламенце апазіцыю, заставацца яе лідэрам. А гэта значыць, што ніякіх змен у дзейнасці апазіцыі не адбудзецца. Апазіцыя рызыкуе ніколі не вырасці з дзіцячых штаноў і застацца асуджанай на паражэнне ў палітычных спрэчках.

Безумоўна, у свой час З. Пазняк сур'ёзна ўскалыхнуў грамадскую думку. Асабліва пасля саюзнага ГКЧП, калі камуністы ў сваёй большасці зразумелі нікчэмнасць, адрыў ад народных інтарэсаў вярхушкі КПСС, згубіўшай здольнасць абапірацца на радавых «аднадумцаў». Але і тады З. Пазняк не праявіў палітычнай мудрасці, не здолеў зрабіць сваімі прыхільнікамі вялікую колькасць ашуканых і расчараваных, сціплых, сумленных людзей, якія сваёй самаадданай працай стварылі моц краіны, цягнулі на сваім гарбе кіруючыя колы КПСС. Ён стаў палівацъ брудам, бязлітасна ганьбіць камуністаў. Нібыта ўсе яны злейшыя ворагі свайго народа, сваёй дзяржавы і яголыя асабіста. У выніку адукаваная, актыўная, з вопытам гаспадарчай і дзяржаўнай дзейнасці частка нашага грамадства аказалася не на баку апазіцыі. Менавіта гэтая палітычная абмежаванасць раз-пораз падштурхоўвала лідэра апазіцыі бязлітасна ганьбіць былую і сучасную ўладу, абуджаць чужыя беларусам нацыяналістычныя пачуцці, нягледзячы на тое, што народ Беларусі большасцю галасоў выказаўся на рэферэндуме за захаванне саюза з братнімі рэспублікамі. Атрымлівалася: апазіцыя дбае пра народ, а ён, няўдзячны, не хоча зразумець апазіцыю.

Адсюль напрошваецца вывад аб неабходнасці рашучага перагляду апазіцыяй сваіх палітычных і тактычных прынцыпаў. Па-першае, трэба шукаць новага лідэра, які змог бы аб'яднаць вакол апазіцыі здаровыя сілы грамадства, заваяваць давер большай часткі насельніцтва. Па-другое, беларусам агіднае само слова «фронт». Які бы ні быў фронт, за ім адчуваецца нешта разбуральнае, нечалавечае. Не да франтоў зараз Беларусі.

У сяго-таго, можа, узнікне пытанне: а чаго так аўтар клапоціцца пра апазіцыю ў парламенце? Адказ адназначны: без апазіцыі, як і без канкурэнцыі, мы ўжо паспрабавалі жыць. Што з гэтага атрымалася? Пераканаль, што старонні погляд на любую праблему — рэч неабходная. Сутыкненне думак павінна спрыяць прагрэсу, абы толькі яно не выклікала варожасці і крыві. Хацелася б бачыць апазіцыю дэмакратычнай, выключна карэктнай. І, безумоўна, усімі лепшымі якасцямі павінен валодаць лідэр апазіцыі. Такога лідэра даўно чакае народ і аддаў бы, не вагаючыся, за яго ўсе галасы, абы пазбавіцца галечы, набыць нацыянальную годнасць, упэўненасць у заўтрашнім дні. Але ці ёсць у цяперашняй апазіцыі на перамены добрая воля? Ці здольны яе лідэр дайсці да разумення, што асабіста ён сам замінае поспеху ім жа задуманай справы?

*"Звязда"* **Мікола АРЦЁМ'ЕЎ.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



ЗВЯЗДА

# У СПРЭЧКАХ ІСЦІНА ГІНЕ?

## Чаму рэйтынг Зянона Пазняка больш высокі ў Заходняй Беларусі?

Старажытныя грэкі — стваральнікі сучаснай навукі, бацькі яе лагічнага апарата — гаварылі: «У спрэчках нараджаецца ісціна». Але наш час, здаецца, спрабуе сцвердзіць адваротны тэзіс. Такое ўражанне складваецца, ва ўсякім разе, ад артыкулаў супрацоўнікаў лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі Белдзяржпедуніверсітэта спадароў С. Польскага і А. Саўчэні («Звязда» 14 верасня г. г.).

Калі адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў з'явіўся артыкул прафесара С. Польскага, то і маёй першай думкай было запярэчыць яму з-за некарэктнасці (памылковасці, недаказанасці) зробленых вывадаў. Сцвярджэнне, што «палякі ў пераважнай большасці падтрымалі З. Пазняка, а беларусы — А. Лукашэнку», у адной частцы, адносна А. Лукашэнкі, — відавочнае і не патрабуе этна-канфесійных ведаў. А ў другой частцы, адносна З. Пазняка, сп. Польскім не было даказана. Хаця яно зусім не крыўднае для БНФ, таму што абвяргае другі палітычны тэзіс С. Польскага пра тое, што З. Пазняк — нацыяналіст і экстрэміст. Які ж ён экстрэміст, калі другая па колькасці нацыянальная меншасць Беларусі «пераважна» падтрымала яго на выбарах?

Але гэты лагічны вывад мог зрабіць толькі чытач, які дайшоў да канца артыкула, а не абмежаваўся разглядам малюнкаў, прыведзеных на старонках газеты. Невялікі артыкул праф. С. Сідора, які звярнуў увагу на недаказанасць *і відавочную* палітызаванасць разважанняў праф. С. Польскага, здавалася б, паставіў кропку пад гэтай праблемай па прычыне адсутнасці прадмета для дыскусіі. Аднак найноўшы артыкул сп. А. Саўчэні падлівае масла ў амаль згаслае полымя, бо паказвае, што спецыялісты па этна-канфесійнай геаграфіі настойваюць на *сваіх палітычных вывадах.*

Я спадзяюся, што маё ўмяшанне ў дыскусію не будзе расцэнена так, быццам я «маю зуб» на згаданых аўтараў. Больш таго, у іх артыкулах я не бачу ніякага аналізу «памылак З. Пазняка ў перадвыбарнай кампаніі» (на што яны прэтэндуюць), хаця дапускаю, што памылкі былі.

Для большасці чытачоў навуковыя спрэчкі нецікавыя, таму што сэнс тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца бакамі, часам застаецца недастаткова зразумелым. Таму я мушу пачаць з тлумачэння. Карэляцыя, калі гаварыць простаю моваю, гэта сродак колькаснай ацэнкі сувязі паміж дзвюма з'явамі, якія не маюць відавочных прычынна-выніковых адносінаў. Тут важныя два моманты: неабходнасць колькаснай ацэнкі карэляцыі паміж дзвюма з'явамі і неабходнасць даказваць наяўнасць прычынна-выніковай сувязі паміж імі. Сродак доказу вельмі просты. Чым большая колькасная карэляцыя, тым больш верагодна, што адна з'ява (у нашым выпадку — высокі працэнт польскага насельніцтва) з'яўляецца прычынаю другой (высокага працэнта пададзеных за З. Пазняка галасоў). Чым карэляцыя меншая — тым больш верагодна, што сувязь паміж разглядаемымі з'явамі выпадковая.

Усё гэта і павінны былі зрабіць спецыялісты па этна-канфесійнай геаграфіі, калі яны заняліся паліталогіяй. Але ні ў адным, ні ў другім артыкуле колькасных ацэнак карэляцыі няма. Аўтары абмяжоўваюцца расплывістымі выразамі накшталт «пераважная большасць» ды дэманстрацыйнымі малюнкамі, якія можа зрабіць любы непрафесіянал. Таму паспрабуем зрабіць гэта за іх і праверыць, ці маюць яны права гаварыць аб «пераважнай большасці».

Нават беглага погляду на карты-схемы, якія прыведзены ў артыкуле А. Саўчэні, дастаткова, каб заўважыць, што «ў найбольш польскіх раёнах» (па ягонай тэрміналогіі), дзе пражывае 10 і болей працэнтаў палякаў, за З. Пазняка аддадзена больш як 25 працэнтаў галасоў у пяці раёнах. Разам з тым «у пераважна беларускіх раёнах» (з доляй беларускага насельніцтва больш чым 90 працэнтаў) такіх раёнаў тры. Пры гэтым Столінскі раён па колькасці насельніцтва варты двух гродзенскіх ці віцебскіх раёнаў. З гэтага адразу ж відаць, што карэляцыя паміж працэнтам польскага насельніцтва і працэнтам галасоў за Пазняка **не можа быць высокаю.**

Паўстае пытанне: чаму аўтары прайшлі міма гэтага відавочнага факта? Самы верагодны адказ у тым, што яны парушылі другую неабходную ўмову для карэктнага статыстычнага аналізу. Яны не даказвалі прычынна-выніковую сувязь паміж дзвюма аналізуемымі з'явамі, а проста пастулявалі яе (бяздоказна паклалі ў аснову сваіх палітычных вывадаў). Гэта асабліва недапушчальна для навукоўцаў, бо яны адразу зрабілі некалькі памылак.

Зыходзячы з таго, што З. Пазняк — католік і палякі—католікі павінны (павінны, а не могуць!) галасаваць за яго, яны свядома ці падсвядома ажывілі замшэлы, пранафталінены тэзіс царскай расійскай прапаганды аб падзеле беларусаў на католікаў-палякаў і праваслаўных-рускіх. А гэта ўжо іх адмоўны ўклад у сучасную палітычную сітуацыю, які цяжка расцаніць інакш, як спробу распаліць веравызнаўчыя і нацыянальныя супярэчнасці.

Пры гэтым яны ігнаруюць той факт, што і С. Шушкевіч, і В. Кебіч таксама католікі, і для таго, каб хоць як-небудзь падмацаваць свой тэзіс аб асаблівай ролі нацыянальна-канфесійнага фактара ў электараце З. Пазняка, неабходна было падлічыць карэляцыю паміж доляю польскага насельніцтва і працэнтам галасоў, пададзеных за гэтых палітыкаў. І толькі пасля на падставе колькаснага параўнання гэтых паказчыкаў рабіць якія-небудзь вывады.

Трэцяя памылка ў тым, што аўтары так верылі ў абгрунтаванасць свайго пастулата, што забыліся абвергнуць прама *процілеглы тэзіс: за Пазняка ў «польскіх»* раёнах асабліва актыўна галасавалі менавіта беларусы, таму што яны незадаволены суседствам з «палякамі» і падтрымалі «нацыяналіста» Пазняка. Безумоўна, гэта вельмі малаверагодная гіпотэза, аднак навука толькі тады навука, калі яна разглядае ўсе магчымасці.

Не зрабіўшы ўсяго пералічанага, аўтары пацвердзілі слушнасць вядомай прымаўкі, якая сцвярджае, што ёсць тры тыпы хлусні — простая, нахабная і статыстыка. Гэтая прымаўка не мае ніякага персанальнага адцення, а толькі падкрэслівае, што кожны, хто працуе са статыстычным матэрыялам, мусіць быць вельмі асцярожным у сваіх вывадах.

Разам з тым няма ніякіх падстаў адкідаць гіпотэзу лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі аб больш высокай падтрымцы З. Пазняка польскім насельніцтвам. Пытанне толькі ў тым, у якой ступені і па якіх прычынах. Давайце разам пашукаем адказы на гэтыя пытанні, бо вынікі выбараў у прынцыпе даюць магчымасць іх знайсці.

Сярод «польскіх» раёнаў ёсць адзін сапраўды польскі, дзе працэнт польскага насельніцтва перавышае 85 працэнтаў, як сцвярджае сп. А. Саўчэня. Гэта — Воранаўскі раён. За Пазняка там пададзена 22 працэнты, за Шушкевіча — 6,7 і за Кебіча — 23 працэнты галасоў. Воранаўскі раён — гэта не менш як 10 тыс. выбаршчыкаў амаль адной нацыянальнасці. У статыстыцы такая колькасць асоб, аб'яднаных якім-небудзь адным паказчыкам, завецца прадстаўнічай выбаркай, і размеркаванне галасоў паміж рознымі прэтэндэнтамі ў межах выбаркі не можа істотна адрозніваць ад размеркавання іх па ўсёй сукупнасці асоб гэтай нацыянальнасці.

Што ж мы бачым? Калі правільная гіпотэза аўтараў, то за З. Пазняка падалі галасы 25-26 працэнтаў польскага насельніцтва Воранаўскага раёна (падзяліце 22 працэнты на 0,85 — долю палякаў у электараце). Гэта не толькі не «пераважная большасць», але прыкладна столькі ж, колькі пададзена за В. Кебіча ці А. Лукашэнку, які сабраў там 28 працэнтаў (лічба ўдвая большая, чым там пражывае няпольскага насельніцтва). Таму нават па завышанай ацэнцы (мы дапусцілі, што ні адзін непаляк — жыхар Воранаўскага раёна — не падтрымаў З. Пазняка) толькі кожны чацвёрты выбаршчык з польскага электарату на Беларусі прагаласаваў за кандыдатуру прадстаўніка БНФ. Гэта, зразумела, не пераважная большасць, але ўсё ж норма ў два разы вышэйшая, чым рэйтынг З. Пазняка сярод беларускага і рускага насельніцтва разам (нагадаю: 13 працэнтаў). Але калі мы зробім папраўку на павышаную папулярнасць З. Пазняка сярод польскага электарату, гэта мінус 1,2 працэнта там, дзе палякі складаюць 10 працэнтаў ад агульнай колькасці, і 2,5 працэнта там, дзе ў раёне кожны пяты — паляк, то відавочна, што геаграфічны арэал павышанай падтрымкі З. Пазняка амаль не зменіцца. А ў сярэднім па Беларусі падтрымка польскага электарату, які складае каля 5 працэнтаў, забяспечыла З. Пазняку дадаткова не больш чым 0,6 працэнта галасоў. Так рассыпаецца ў пыл галоўная канструкцыя С. Польскага і А. Саўчэні. І аказваецца, што не так ужо не меў рацыі праф. С. Сідор, які крытыкаваў калегу за некарэктнасць.

Нам застаецца толькі пашукаць сапраўдныя прычыны геаграфічнай неаднароднасці электарату БНФ. Паглядзім яшчэ раз на малюнкі сп. А. Саўчэні і адзначым, што ўсе раёны, дзе З. Пазняк сабраў ад 10 да 25 і больш як 25 працэнтаў галасоў (як «польскія», так і «беларускія»), знаходзяцца на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, калі не лічыць горада Мінска. Наогул, рэйтынг З. Пазняка на захадзе Беларусі ў 2-3 разы вышэй, чым на ўсходзе, незалежна ад нацыянальна-канфесійнага саставу насельніцтва. Гэта — фактар геаграфічны, які ўлічвае, што сярод насельніцтва былой Заходняй Беларусі яшчэ жывыя ўспаміны аб жыцці без камуністаў (калектывізацыя там адбылася толькі 40 гадоў таму), жывыя ўспаміны аб змаганні за нацыянальную незалежнасць у межах даваеннай Польшчы, больш цесныя сувязі (праз тых жа палякаў) з сучаснай дэмакратычнай Польшчай і таму больш яснае разуменне неабходнасці палітычных і эканамічных рэформаў, якія прапаноўвае БНФ.

Нашая схема не можа лічыцца поўнаю, пакуль не будзе дадзена тлумачэнне адзінаму выключэнню — больш чым 30 працэнтам галасоў за З. Пазняка ў Столінскім раёне, далёкім ад Віленшчыны. Гэтае тлумачэнне самае цікавае, таму што самае простае. Менавіта ў гэтым раёне за два тыдні да выбараў пабываў З. Пазняк і правёў каля 10 сустрэч па вёсках. І гэты фактар — фактар інфармацыйны — безумоўна, вырашальны. Беларускі народны фронт, які не меў доступу да падкантрольных ураду В. Кебіча сродкаў масавай інфармацыі, мусіў пераадольваць глухую інфармацыйную блакаду і тэндэнцыйную дэзінфармацыю толькі шляхам асабістых кантактаў з выбаршчыкамі. За два гады такіх сустрэч З. Пазняк пабываў у многіх раёнах, але пераважна заходніх, дзе кантроль наменклатуры над людзьмі быў слабейшы. Столінскі раён быў проста апошнім з іх ліку, і свежыя ўражанні ад сустрэч далі выдатны вынік.

Такім чынам, сярод шэрага фактараў, якія вызначаюць неаднароднасць электарату БНФ — геаграфічнага, гістарычнага, рэгіянальнага, інфармацыйнага, — фактар нацыянальна-канфесійны не з'яўляецца не толькі вядучым, як сцвярджаў у выніку паспешлівага аналізу праф. С. Польскі, ён увогуле ледзь не апошні па сваёй значнасці. Было б добра, калі б у лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі спакойна зрабілі прафесійна дасканалы аналіз і ўзважылі адносную ролю кожнага з пералічаных фактараў, а можа, і дадалі якія яшчэ.

І, зразумела, без смешных прэтэнзій на бязгрэшнасць сваіх вывадаў. Навука — дакладная рэч. Яна павінна пераконваць фактамі, а не спасылкамі на аўтарытэты ці навуковыя тытулы.

Толькі ў гэтым выпадку ў спрэчках можа нарадзіцца ісціна.

**Юры ХАДЫКА,**
**доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, намеснік старшыні БНФ.**

## ЭНЦЫКЛАПЭДЫЯ "БЕЛАРУСКАЯ МОВА"

Напрыканцы гэтага года прыхільнікаў роднага слова чакае сапраўдны падарунак: у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі падрыхтавана і выходзіць з друку энцыклапедыя «Беларуская мова». Каля пяці гадоў доўжылася праца над гэтым выданнем, лепшыя мовазнаўцы былі прыцягнуты да работы над ім. У важкім томе (а ў кнізе больш за сто ўлікова-выдавецкіх аркушаў) змешчана багата інфармацыі па гісторыі роднай мовы, аб лёсе рукапісных і друкаваных помнікаў пісьменства і іх моўнай характарыстыцы, пададзены разнастайныя звесткі з беларусазнаўчага моўнакультурнага сумежжа. Важнае месца ў энцыклапедыі займаюць уласна лінгвістычныя матэрыялы: апісанне ладу сучаснай беларускай мовы, яе структуры, характарыстыка катэгорый і законаў функцыянавання. Не абыдзена ўвагай народна-гутарковая мова беларусаў у яе дыялектнай разгалінаванасці, а таксама праблематыка культуры вуснага і пісьмовага маўлення, станаўлення літаратурных норм у галіне правапісу, стылістыкі, вымаўлення. Натуральна, што на гэтым фоне зусім не лішнімі падаюцца жыццяпісы тых, для каго служэнне роднаму слову стала сэнсам і мэтай жыцця: вядомых мовазнаўцаў, майстроў прыгожага пісьменства, дзеячаў мінулага. А каб чытач не разгубіўся ў гэтым вялікім акіяне моўнай інфармацыі, хай сабе і сістэматызаванай паводле алфавітнага прынцыпу, у канцы выдання змешчаны падрабязны тэрміналагічны і імянны паказальнікі.

І нарэшце — пра самае галоўнае. Энцыклапедыя «Беларуская мова» — першае ў гісторыі нацыянальнай культуры выданне такога тыпу. У краінах блізкага замежжа няма аналагаў гэтай фундаментальнай працы паводле ахопу моўнага матэрыялу і характару яго сістэматызацыі. Няма іх і ў пераважнай большасці краін еўрапейскага кантыненту. Але, як напісаў у прадмове да энцыклапедыі навуковы рэдактар выдання, доктар філалагічных навук А. Міхневіч, «кніга гэта не стала б явай, калі б не было эстафеты пакаленняў, што жывілі і аберагалі нашу мову, што некалі закладалі падмуркі і будавалі ў нялёгкай працы гмах нашага пісьменства, што на працягу стагоддзяў радок за радком запаўнялі старонкі летапісу беларускай філалагічнай навукі. Усе яны — нашы далёкія продкі і нядаўнія папярэднікі — пачэсныя аўтары моўнай энцыклапедыі, якая — вельмі хацелася б гэтага — стане сціплым помнікам іхнім надзеям, любові і намаганням».

"Роднае Слова"

**Тамара КАРОТКАЯ,**
загадчыца рэдакцыі народнай асветы выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

## Гадзіннікі б'юць... рэкорды

**Як вы думаеце, якіх тавараў народнага спажывання рэспубліка выпускае больш за ўсё? Аказваецца, усе рэкорды пабіла вытворчасць бытавых гадзіннікаў.**

За шэсць месяцаў гэтага года іх сышло з канвеера 8.733 тысячы штук. Услед за лідэрам ідуць школьныя сшыткі. Іх адпраўлена ў гандаль 7.410 тысяч штук. Не спыняюцца і ткацкія станкі на прадпрыемствах, якія выпускаюць дываны. Велізарны "дыван" памерам 5.608 тысяч квадратных метраў стварылі беларускія майстры. Дастаткова многа гумавага абутку выпускае рэспубліка. За паўгода тут выпушчана столькі непрамакальных ботаў, тапак, галошаў, што ў іх можна абуць 1.850 тысяч чалавек. Ну, а што ж з бытавой тэхнікай? Як сведчыць статыстыка, было выраблена 299,1 тысячы штук каляровых тэлевізараў, 421,7 — халадзільнікаў і маразільнікаў, 126,5 — электрасокавыціскалак, 42,8 — пральных машын і 41,8 тысячы — магнітафонаў.

**Наталля НЕВІДОМАЯ, Белінфарм.**

– Скажы нам, Рыгорка, з чаго зроблены вось гэты твой шалік?
– З тканіны... Суконнай.
– А сукно з чаго робяць, ведаеш?
– З воўны.
– Правельна. Дык якая жывёла, значыць, дала табе шалік?
– Бацька...

**НАДЫХОДЗЯЦЬ КАЛЯДЫ...** *Гэта час, калі людзі дзеляцца сьвяточнымі падарункамі...*
*Не забудзьцеся, калі ласка, зрабіць сьвяточны падарунак таксама і для "Беларускага Дайджэсту"!*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# "Жыгулі" Шушкевіча застаюцца на хаду, а іх гаспадар — на палітычнай арэне

**У гэтым упэўніўся карэспандэнт "Народнай газеты", пагутарыўшы са Станіславам Станіслававічам у салоне яго легкавіка па дарозе з чарговага парламенцкага пасяджэння**



**— Пасля прэзідэнцкіх выбараў вы на нейкі час практычна зніклі з поля зроку шырокай грамадскасці. Між тым у свой час вы заяўлялі, што незалежна ад выніку выбараў застанецеся ў палітыцы...**

— Натуральна, падчас выбарчай кампаніі я болей быў на вачах грамадскасці, хоць і не так шмат, як хто-кольвек з кандыдатаў... А ўвогуле нікуды я не знікаў, нават адпачываць далёка не ездзіў.

Патрэбен быў час, каб прааналізаваць разам з паплечнікамі, што адбылося, якая склалася сітуацыя і што рабіць далей. А больш канкрэтна — як дэмакратычныя сілы павінны рыхтавацца да наступных парламенцкіх выбараў.

**— І калі разважаць над вынікамі барацьбы за прэзідэнцтва...**

— ...то, па-першае, трэба адзначыць: перамога Аляксандра Лукашэнкі адбылася ў значнай ступені таму, што народ праціstaў старому ўраду. Па-другое, цяперашні прэзідэнт даваў так многа абяцанняў, што будзе вельмі добра, калі хоць частку іх здолее выканаць. Калі жыццё адразу ж прымусіла новага кіраўніка пайсці на непапулярныя меры, ён мусіў апраўдвацца тым, што, маўляў, не ведаў усёй глыбіні нашых эканамічных праблем... Я глыбіню гэтых праблем уяўляў і таму не мог даваць нерэальных абяцанняў.

**— А вы не баіцеся, што ў новы парламент прыдуць перш за ўсё тыя, хто наабяцае болей за іншых?**

— Ведаеце, я прыгадаў бы тут байку — памятаеце? — пра хлопчыка, які пасе авечак і раз за разам дзеля жарту крычыць: "Ваўкі!" Сяляне прыбеглі на дапамогу раз, другі, а потым проста махнулі рукой...

Папулізму апошнім часам у нас было занадта многа, каб людзі так лёгка "купіліся" яшчэ раз. Дарэчы, большасць інтэлігенцыі, наколькі я ведаю, галасавала на мінулых выбарах не так, як асноўная маса выбаршчыкаў. Цяпер жа і тым, хто паверыў абяцанням пра стабільные цэны, цудадзейны грашовы саюз, імклівае выкараненне карупцыі і іншых заган, міжволі даводзіцца глыбей асэнсоўваць сітуацыю, пераконвацца, што чароўных рэцэптаў не бывае... Бліжэйшы час, я думаю, дасць новыя сур'ёзныя падставы для такога роздуму. Таму думаю, што дзевяты вал папулізму ў нас ужо мінуў.

**— Але ці не падвядзе зноў дэмакратаў раздробленасць іх сіл?**

— Ужо ёсць вопыт, у тым ліку і адмоўны... Сёння навaт у БНФ, здаецца, зразумелі, што іх арганізацыя не здольна ўсіх сабраць, аб'яднаць і павесці. Да станаўлення рынычных механізмаў — а гэта сёння галоўнае — ва ўсіх дэмакратаў падыходы практычна аднолькавыя. І калі на першым месцы будуць не амбіцыі, а сапраўды дэмакратычныя перакананні, перашкод для аб'яднання я ўжо не бачу. Прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў неаднаразова апошнім часам збіраліся, каб параіцца, як лепш аб'яднацца — і арганізацыйна, і ідэйна. Ёсць нядрэнныя задумы, тут не абышлося, дарэчы, без распрацовак нашага Цэнтра.

**— Вы маеце на ўвазе кіруемы вамі Цэнтр палітычных і эканамічных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта? Не сказаць, каб яго работа вельмі афішыравалася...**

— Ведаеце, ён зусім не падобны да цэнтра Антановіча (прыхільніка ўсіх існуючых кіраўнікоў і ўрадаў), куды з каманды Кебіча ішло шмат грошай, каб гэты ўрад старанна рэкламаваўся. У нас вельмі сціплыя сродкі — ад тых структур у рэспубліцы, што маюць патрэбу ў сапраўды цвярозым аналізе сітуацыі. Такі аналіз мы робім. І маем, дарэчы, свой варыянт праграмы выхаду з крызісу.

**— Чым ён адрозніваецца ад прэзідэнцкага варыянту?**

— Перш за ўсё ён не супярэчлівы. У прэзідэнцкай жа праграме, з аднаго боку, я знаходжу многае з таго, што было ў маёй перадвыбарчай, а менавіта: запуск рынкавага механізма ў галіне фінансавай стабілізацыі. І гэта добра. Але, з другога боку, нельга вырашаць эканамічныя пытанні камандымі захадамі. Стаўка на адміністраванне, сілавыя метады можа падвесці прэзідэнцкую каманду.

**— Вашы першыя ўражанні ад чарговай сесіі Вярхоўнага Савета?**

— Першае ўражанне было такое: прэзідэнцкая каманда наскокам спрабуе замацаваць і пашырыць сваю ўладу. Але Вярхоўны Савет правіў цвёрдасць і прадэманстраваў, што хоча дакладнага вызначэння паўнамоцтваў прэзідэнта і Кабінета міністраў, строгага выканання імі патрабаванняў Канстытуцыі. І ў гэтым сэнсе некаторыя юрысты па адукацыі з прэзідэнцкай каманды былі аргументавана, пастаўлены на месца дэпутатамі, якія не маюць такой адукацыі, але ўжо набылі адпаведны вопыт — напрыклад, тым жа Голубевым...

**— Як вы ацэньваеце прэзідэнцкую задуму "ўладнай вертыкалі"?**

— Здаецца, прэзідэнцкая каманда цягне не ў той бок. Я за тое, каб кіраўнікоў мясцовай улады ў любым выпадку выбіраў народ.

**— Прэзідэнт настойвае такасама на мажарытарнай сістэме выбараў, матывуючы тым, што партыі ў нас слабыя і амаль ніякага ўплыву на грамадства не маюць...**

— Ва ўсякім разе трэба грунтоўна абмеркаваць гэта пытанне, бо сёння многія дэпутаты, што былі некалі гарачымі прыхільнікамі мажарытарнай сістэмы, змянілі свой погляд.

**— Можа, таму, што спадзяюцца трапіць у новы парламент па партыйных спісах і адпаведныя змяненні ў выбарчым законе выгадныя перш за ўсё для іх саміх?**

— Яны былі б выгадныя перш за ўсё для народа, бо практычна ўсе дэмакратычныя краіны прайшлі праз этап змешаных мажарытарнапрапарцыянальных выбараў. Гэта развівае палітычную свядомасць масавага выбаршчыка.

**— У вас няма апаскі, што сесія можа ператварыцца ў арэну міжусобных палітычных "разборак", бо хто-кольвек з дэпутатаў моцна пакрыўджаны на прэзідэнта?..**

— Пажадана, каб такія ўзаемаадносіны высвятляліся па-за сесіяй. Хоць не магу не заўважыць: многія кадравыя пытанні новае кіраўніцтва пачало вырашаць спляча. За што, напрыклад, быў так прыніжаны Павел Паўлавіч Казлоўскі? Я быў не згодзен з многімі падыходамі былога міністра абароны, але не меў інфармацыі, што ён асабіста несумленны... У любым выпадку трэба разбірацца як след, вырашаць усё інтэлігентна.

Між іншым, на гэтай сесіі з вуснаў прэзідэнта прагучала думка пра тое, што, маўляў, не ўсе, хто будуе катэджы, з'яўляюцца людзьмі несумленнымі. Шкада, што такая думка не прыходзіла яму ў галаву раней. Дарэчы, цяперашні прэзідэнт так і не папрасіў прабачэння за тыя бязглуздыя абвінавачванні, якія высунуў у мой адрас, калі ўзначальваў вядомую камісію...

**— А ці праўда, што ў нашым Міністэрстве замежных спраў напярэдадні выбараў наўмысна доўга пратрымалі адрасаваны вам ліст ад Клінтана?**

— Так, я атрымаў яго са спазненнем амаль на тры месяцы, у самым канцы перадвыбарнай кампаніі, і то, можна сказаць, выпадкова. Але ці варта дзівіцца? Тады, перад выбарамі, усе метады для старой урадавай каманды былі добрыя. Калі ўжо нават міфічную галандскую газету выдумалі...

**— Дарэчы, вы збіраліся падаць у суд за тую "галандскую вутку"...**

— Я гэтага намеру не пакідаю. Проста цяпер няма куды спяшацца. Хачу падрыхтавацца да гэтай справы пры дапамозе высокакваліфікаванага адваката. Тэрміну даўнасці для такіх злачынстваў няма. А той падлог на ўзроўні кіраўніцтва дзяржавы я лічу сапраўдным злачынствам. І дзіўлюся, што наша Пракуратура падышла да гісторыі з "галандскай вуткай" гэтак павярхоўна, фармальна.

**— Калі ласка, два словы пра ваша сённяшняе асабістае жыццё. Вы зноў селі за руль сваіх "Жыгулёў", якія выглядаюць, дарэчы, яшчэ зусім не блага...**

— ...у той ступені, наколькі гэта магчыма для машыны пасля адзінаццаці гадоў эксплуатацыі і ста дваццаці тысяч кіламетраў прабегу.

**— А службовым лімузінам карыстаецеся?**

— Права такое маю, але не злоўжываю ім.

**— Цяпер у вас, відаць, болей вольнага часу?**

— Жыццё стала крышку спакайнейшым, але не вельмі. Паранейшаму шмат сустрэч, тэлефанаванняў ды і ўвогуле ёсць над чым працаваць галавой.

Гутарыў Кастусь АЛЯКСАНДРОВІЧ.

"Народная газета"

## Навагрдцам — уласную гарэлку!

**У 1995 г. Навагрaдак займее ўласны лікёра-гарэлкавы бровар. Штогод ён будзе вырабляць 1 мільён 300 тысяч дэкалітраў моцных напояў.**

Чакаючы падзеі, навагрaдцы падзяліліся на два лягеры. Адным падавай без усялякіх фокусаў традыцыйную «Рускую». Тутэйшым жа патрыётам заманулася адшукаць старасвецкія рэцэпты і паводле іх вырабляць новыя гатункі: «каралеўскую» гарэлку «Міндоўг» або «Магнацкую».

"З нагоды 74-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня Беларусы з Аўстраліі прыпамінаюць гэтую ведамую падзею ў гісторыі Беларусі для ўсіх Беларусаў ва ўсім сьвеце. Нацыянальны ўздым Слуцкага Паўстаньня будзе вечна жыць у памяці ўсіх Беларусаў..." – гаворыцца ў даволі доўгім звароце да ўсіх беларускіх людзей...

Падпісаў за ВК-Т Ф.Р.Б.А. у Аўстраліі
Сакратар – Паула Гуз.

*ПАДТРЫМКА М. ГРЫБА*

## ВЫДАННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ БУДЗЕ ПРАЦЯГНУТА

Адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба з галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.Броўкі Барысам Сачанкам. Размова вялася аб вырашэнні праблем выдання шматтомнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", у якой вялікі аўтарскі калектыў імкнецца найбольш поўна адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сённяшніх дзён.

Мечаслаў Грыб выказаў вялікую зацікаўленасць у працягу выдання гістарычнай энцыклапедыі, першы том якой ужо вынесены на чытацкі суд, і абяцаў падтрымку ў гэтым з боку Вярхоўнага Савета. Вялікая праца вядучых вучоных, размічаная на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй свайго народа, свайго краю, стане добрым укладам у агульную скарбніцу беларускай і еўрапейскай культуры.

*О, Крыўская зямля!*
*О, волатаў нашчадкі!..*
(Вацлаў Ластоўскі)

ГІСТОРЫЯ РОДНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ.

**Ты — векапомная.**
**Ты — гераічная.**
**Ты — драматычная.**

**Твае сыны:**

**Канстанцін Астрожскі,**
**Леў Сапега,**
**Тадэвуш Касцюшка,**
**Францішак Скарына,**
**Сымон Будны,**
**Васіль Цяпінскі.**

**Узбагаціла ты:**

**Усходніх славянаў — першадрукаром,**
**Еўропу — першай Канстытуцыяй,**
**Сусвет — класічным сярэднявечным правам.**

**Прынікнем жа да крынічных вытокаў.**

**Каб памудрэць,**
**Каб пасталець,**
**Каб з годнасцю мовіць:**
**Гэта МЫ — БЕЛАРУСЫ.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ НЕАБХОДНА ВЯРНУЦЬ

Праблемам вяртання нацыянальна-культурных каштоўнасцей, згубленых у перыяд другой сусветнай вайны, была прысвечана міжнародная канферэнцыя, якая праходзіла ў Чарнігаве ў канцы верасня. Сярод яе ўдзельнікаў — вучоныя і грамадска-палітычныя дзеячы Германіі, ЗША, Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Расіі, Славакіі, Эстоніі, Беларусі.

Юрыдычнай асновай для вяртання ўжо выяўленых нацыянальных каштоўнасцей з-за мяжы з'яўляецца прыняты ў 1992 годзе Закон РБ «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Па палажэннях гэтага закона на канферэнцыі выступіў намеснік старшыні Дзяржінспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Васіль Чэрнік. Па звестках агенцтва РІД, удзельнікі сустрэчы прынялі зварот да ЮНЕСКО, у якім прапанавалі праграму сумесных мерапрыемстваў у гэтай галіне.

**РІД.**

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

## НАКІРУНАК — НАТО

Міністэрства замежных спраў Беларусі аб'явіла, што разглядае пытанне аб далучэнні да праграмы НАТО "Партнёрства ў імя міру". Чаму Беларусь толькі цяпер выказала жаданне ўдзельнічаць у гэтай праграме? Адказваючы на гэтае пытанне, паверены ў справах рэспублікі ў Лондане Алег Якавіцкі сказаў:

— Цяпер у нас абраны прэзідэнт, ёсць новы ўрад, які праводзіць новы курс. Калі раней была арыентацыя толькі на Усход, то цяпер мы плануем тактам перагледзець нашы сувязі з Захадам, а галоўная магчымасць іх перагледзець — гэта ўступіць у праграму "Партнёрства ў імя міру".

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# “ЗАЯЦ” У РОЛІ ВАЛЮТЫ

Ужо ў бліжэйшыя месяцы рэспубліканскі гандаль пяройдзе на ажыццяўленне ўсіх плацяжоў толькі нацыянальнай валютай. Сцвярджаючы гэта, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч сказаў, што ролю апошняй будуць выконваць беларускія разліковыя білеты, якія плануецца на сесіі Вярхоўнага Савета прызнаць адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі.

Па ўсім відаць, у нашай рэспубліцы пачне дзейнічаць расійская мадэль: усім валютным магазінам прыйдзецца пераарыентавацца на “зайцоў” і адначасова выдзеліць месца для абменнага пункта. Бо нікога не прымусіш насіць у кішэнях і сумках вялікія сумы “звяркоў” замест худых кашалькоў з “баксамі”.

Галоўны банкір таксама пацвердзіў, што ў падвалах Нацыянальнага банка захоўваюцца аддрукаваныя грошы — новы “беларускі рубель”, які не мае нічога агульнага з цяперашнімі разліковымі білетамі. Новы “рубель” з"явіцца ў нашых кашальках, мяркуючы па ўсім, толькі пасля таго, як эканоміка рэспублікі паправіць сваё здароўе і выйдзе на ўзровень інфляцыі 7 працэнтаў у месяц, а то і менш.

# Маскоўскі пэнсіянер вяртае памяць

Калі маскоўскі пенсіянер Аляксандр Рыгоравіч Ралько, ураджэнец вёскі Падлошыца Слуцкага раёна, выйшаў на заслужаны адпачынак, то стаў наведваць родныя мясціны як дачнік, балазе ў вёсцы застаўся бацькоўскі кут. З дзяцінства ведаў Аляксандр Рыгоравіч па расказах старажылаў, што ў лесе паблізу пасёлка Кучына ў 30-я гады праводзіліся масавыя расстрэлы ахвяр сталінскага генацыду. І сёння яшчэ вам раскажуць, як па начах вурчэлі маторы «чорных варанкоў» і з лесу чуліся стрэлы. Расстрэльвалі першнаперш інтэлігентаў, затым так званых кулакоў, хто збег з Котласа і Салаўкоў, пазней, у 38-м годзе, — афіцэраў Чырвонай Арміі. Прывозілі са слуцкай акруговай турмы.

Задаўся мэтай Аляксандр Рыгоравіч увекавечыць тое месца. На свае асабістыя зберажэнні заказаў у цэху рытуальных паслуг двухметровы жалезабетонны помнік, на ім выбілі складзены самім пенсіянерам памінальны тэкст. На самай макаўцы пліты выбілі праваслаўны крыж.

І паставілі помнік узбоч шашы, што вядзе са Слуцка на Маскву. Хто ні праязджае — звяртае ўвагу, спыняецца, схіляе галаву ў павазе да соцень, тысяч безыменных ахвяр таталітарызму.

Мне ўдалося даведацца, што толькі выраб помніка каштаваў А.Ралько 41,3 тысячы рублёў (у новым вылічэнні), а разам з выдаткамі на дастаўку, устаноўку — яшчэ больш.

Нізкі паклон вам, Аляксандр Рыгоравіч!

*Міхась ТЫЧЫНА.*

# БЕЛАРУСЬ МОЖА ЗГУБІЦЬ ШАНЦ ТРАПІЦЬ У ГАНДЛЁВАЕ СУПОЛЬНІЦТВА СВЕТУ

**27 кастрычніка мінулага года ў Жэневе Беларусь выказала намер аб уступленні ў Генеральнае пагадненне па тарыфах і гандлю. Але да гэтага часу наша краіна з'яўляецца толькі *назіральнікам пры гэтай буйнейшай арганізацыі.* Мэтазгоднасць жа найхутчэйшага далучэння да ГАТТ разумеюць як кіраўнікі дзяржавы, аб чым было заяўлена на апошняй нарадзе дыпламатычнага корпуса, так і структуры, якія імкнуцца аналізаваць становішча самастойна. У прыватнасці, на апошнім пасяджэнні «ценявога» кабінета БНФ было заяўлена, што далучэнне Беларусі да ГАТТ дасць магчымасць уключыцца ў цывілізаваную сістэму міжнароднага гандлю.**

**Па звестках, атрыманых з МЗС Беларусі, уступіўшы ў ГАТТ, Беларусь увойдзе ў супольнасць краін, якія вядуць гандаль на ўсталяваных за многія гады прынцыпах: недыскрымінацыі, узаемнасці, спрыяння, рэгулявання гандлю з дапамогай тарыфаў і г. д. Дадам, што больш як 90 працэнтаў сусветнага тавараабароту кантралюецца краінамі — удзельніцамі Пагаднення.**

**Што ж перашкаджае Беларусі далучыцца да арганізацыі, карысць ад *членства ў якой відавочная! Як патлумачылі* ў аддзеле міжнародных эканамічных адносінаў МЗС Беларусі, працэс далучэння да ГАТТ даволі доўгі. Зараз пры штаб-кватэры ГАТТ у Жэневе створана працоўная група, якая займаецца вывучэннем беларускага мемарандуму, пасля чаго ў Мінск могуць быць накіраваны ўдакладняльныя пытанні па асобных пазіцыях дакумента. Калі адказы Мінска задаволяць працоўную групу, яна прадставіць даклад у Савет ГАТТ. Потым адбудзецца галасаванне, у ходзе якога Беларусі неабходна атрымаць не менш двух трэціх галасоў.**

**Тэарэтычна працэдура ўступлення ў гэту універсальную арганізацыю разлічана на некалькі месяцаў, але на практыцы да прыёму ў яе могуць прайсці гады. Сістэма «пытанне — адказ» дазваляе пры жаданні расцягнуць працэдуру на няпэўны тэрмін.**

**Для Беларусі ў гэтым выпадку зусім не ўсё роўна колькі часу зойме афармленне яе ўступлення ў ГАТТ. Справа ў тым, што прагрэс сусветнага гандлю за апошнія дзесяцігоддзі лагічна прывёў да мэтазгоднасці пераўтварэнне ГАТТ у больш дасканалы арганізм — Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА), якая павінна пачаць дзейнічаць ужо з 1 студзеня будучага года. Далучыцца ж да СГА будзе куды больш складана, чым зараз да ГАТТ, бо ў яе рэгламент увойдуць усе пагадненні, што былі заключаны ў межах ГАТТ з 1947 года і да Уругвайскага раунда ў снежні 1993 года. Да цяперашняга часу для ўступлення ў ГАТТ дастаткова было падпісаць толькі тэкст асноўнага пагаднення ад 1947 года.**

**Калі зараз Беларусь не пачне фарсіраванымі тэмпамі працэс далучэння да ГАТТ, мы можам згубіць магчымасць стаць раўнапраўнымі ўдзельнікамі міжнароднага гандлю, а гэта азначае, што Беларусь не зможа абараніць інтарэсы сваіх экспарцёраў у адпаведнасці з зафіксаванымі агульнапрынятымі нормамі і не зможа пазбегнуць дыскрымінацыі.**

**Юрась КАРМАНАЎ.**

“Голас Радзімы”

ПАСЛЯ 21-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

# ДА СУАЙЧЫННІКАЎ НА ДРУГІ БОК ЗЯМЛІ

Разам са старшынёй Рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганнай Сурмач ляцім на 21-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі (Таронта, 3--5 верасня), а па дарозе хочам пабачыцца з беларусамі ЗША і Канады. З сумам адзначаем, што на мытні дэкларацыі на многіх мовах, апрача беларускай. Але затое з пачуццём гонару сядаем на самалёт кампаніі нашай краіны "Белавія" і яшчэ з большай радасцю чуем, як маладыя прывабныя сцюардэсы даюць аб'явы на беларускай і ангельскай мовах. Аэрапорт Шэнан -- перасадка на вялікі (больш 400 пасажыраў) лайнер ірландскай авіякампаніі. Як удала скарыстала Ірландыя сваё геаграфічнае становішча! А знаходжанне Беларусі ў цэнтры Еўропы на скрыжаванні шляхоў з Захаду і Усходу, з Поўдня і Поўначы ці зможа наш урад таксама выкарыстаць дзеля ўзбагачэння сваёй краіны?

Паводле неафіцыйных падлікаў беларусаў па штатах у ЗША, прыведзеных у вядомай кнізе Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", колькасць нашых суайчыннікаў там больш за 800 тысяч, а з улікам Канады не менш 1 мільёна. Але па прыездзе ў Амерыку і Канаду многіх з іх прымусова стараліся запісаць рускімі, палякамі ці нават украінцамі, ды і самі яны часта хутка асіміляваліся сярод гэтых і іншых нацыянальнасцяў. Свядомых беларусаў-эмігрантаў, якія стварылі існуючыя зараз згуртаванні, царкоўныя і грамадскія арганізацыі, навуковыя і культурныя цэнтры, выдалі многія кнігі, часопісы, газеты і г.д., значна менш. Але менавіта яны трымалі і развівалі многія дзесяцігоддзі беларускасць у Паўночнай Амерыцы, і мы ехалі да іх.

Зора Кіпель (галоўны рэдактар газеты "Беларус") і Вітаўт Кіпель (дырэктар Беларускага інстытута культуры і мастацтва ў Нью-Йорку) пазнаёмілі нас з выдатнай Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкай і асабліва з яе Славяна-Балтыйскім аддзелам, у якім ёсць досыць багаты блок беларускай літаратуры.

Дарэчы, пазней мы былі ў такіх жа бібліятэках Кліўленда, Чыкага і ва універсітэцкай бібліятэцы Таронта. Гэта сапраўдныя палацы з вялікай колькасцю літаратуры з усяго свету, зручнымі заламі, картатэкай на камп'ютэрнай аснове. Найбольш багата беларуская літаратура як мастацкая, так і навуковая прадстаўлена ў Таронта. Тут за некалькі хвілін на камп'ютэры я змог убачыць назвы і сваіх прац, і прац маіх беларускіх калег-геолагаў. Зусім малую колькасць выпадковых выданняў мы ўбачылі ў Чыкага, дзе загадчыца аддзела славянскай літаратуры, украінка па паходжанню, растлумачыла: "Ніхто не цікавіцца". Кіпелі пазнаёмілі з важнай працай, якую яны зараз вядуць: выданнем газеты "Беларус", падрыхтоўкай бібліяграфіі ўсіх выданняў беларускага замежжа, бязвыплатнай адпраўкай гэтых выданняў у Беларусь у Цэнтральную дзяржаўную бібліятэку Мінска.

Вельмі цікавыя маршруты па Нью-Йорку правёў з намі вялікі знаўца горада старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Антон Шукелойць. З гонарам убачылі наш бел-чырвона-белы сярод амаль 200 сцягоў незалежных краін свету каля будынка ААН. На жаль, у крамах было незлічона сувеніраў (у тым ліку сцяжкоў, бралкоў з сімваламі) розных краін, апрача беларускіх. Чаму гэта не хвалюе каля дзесятка нашых прадстаўнікоў у ААН і пасольстве? Продаж сувеніраў -- не толькі прапаганда, але і валюта дзяржаве. Каля знакамітай Уол-стрыт бачылі мемарыяльную дошку, прысвечаную чалавеку, які адкрыў у Нью-Йорку першую навучальную школу, але толькі спадар Антон і тыя людзі, якім ён гэта казаў, ведаюць, што той дзеяч быў беларусам. Безумоўна, не маглі не з'ездзіць на караблі да статуі Свабоды, чэрава якой набіта турыстамі -- яны марудна на працягу 1,5 гадзіны ўздымаюцца, адлічваючы 354 прыступкі, да самай яе галавы, каб хвіліну глянуць адтуль на небаскробы Нью-Йорка.

Цікавыя размовы пра жыццё беларусаў у Амерыцы, пра навуку і культуру адбыліся з прафесарам хіміі Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта, кіраўніком танцавальнага ансамбля "Васілёк" Алай Орса-Рамана, прафесарам Фрэнкам Рамана, з вядомым гісторыкам, журналістам і грамадскім дзеячам Янкам Запруднікам, мастачкай Галінай Русак, прэзідэнтам Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амерыкі Расціславам Завістовічам, Паўлінай і Яўгенам Сурвіламі, Алексам Сільвановічам і многімі іншымі.

Спадарыня Ала на наша пытанне: "Чаму ў Амерыцы так многа вельмі тоўстых людзей"? адказала проста: "У нас праблема з харчаваннем!" І праўда праблема: на кожным кроку ці рэстаран, ці кафэ, ці яшчэ якія-небудзь харчэўні, у якіх вельмі смачна і каларыйна кормяць. Асабліва папулярныя такія, у якіх так званы "шведскі стол" -- заплаціў і еш, што хочаш і колькі хочаш. Усюды прадаюцца недарагія розныя арэшкі, семкі (ужо лушчаныя), чыпсы і г.д., якія многія амерыканцы ўвесь час жуюць. Мы падумалі: "Вось нам бы такую праблему!"

Адбыліся нашы сустрэчы і выступленні з мноствам пытанняў пра жыццё на Беларусі ў фундацыі імя П.Крэчэўскага (Нью-Йорк), у Саўт-Рыверы, а затым у Кліўлендзе, Чыкага. Наведалі беларускія цэрквы (а іншы раз слухалі службу) у Нью-Бансуіку, Саўт-Рыверы, Кліўлендзе, Чыкага (уніяцкую і праваслаўную), Таронта. Пакланіліся праху суайчыннікаў на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы і Кліўлендзе -- акуратныя, дагледжаныя, з надпісамі па-беларуску.

Мне асабліва цікава было сустрэцца і пагаманіць з Антонам Адамовічам (жыве зараз у вельмі ўтульным доме для састарэлых пенсіянераў у Нью-Йорку), Інай Рытар (Кахаsucceeded ноўскай) -- пісьменніцай, псеўданім Аляксандра Саковіч (Кліўленд), сёстрамі Ірэнай і Людвікай Будзькамі (Чыкага), якія добра ведалі майго дзядзьку Максіма Гарэцкага.

Васіль Мельяновіч -- вядомы грамадскі дзеяч, заснавальнік кампаніі "Беларуска-Амерыканская інфармацыйная служба" для спрыяння прафесійным і эканамічным кантактам Амерыкі і Беларусі -- з вялікай прыязнасцю пазнаёміў нас як з "аднапавярховай" Амерыкай (Гановер і іншыя гарады), так і са сталіцай -- Вашынгтонам, дзе мы з прыемнасцю наведалі "сваё" беларускае пасольства. У гарадках, вёсках і на фермах -- утульныя хаты-катэджы, вакол абавязковыя чыстыя зялёныя газоны з падстрыжанай травой (маленькімі трактарамі стрыгуць амаль раз у тыдзень), каля дома 3--4 аўтамабілі для кожнага члена сям'і (яны неабходныя, бо грамадскі транспарт, апрача вялікіх гарадоў, ездзіць рэдка). Здзіўляюць гандлёвыя цэнтры з велізарнымі магазінамі (прадуктовымі, прамтаварнымі, будаўнічымі, аўтамабільнымі, канцылярскімі і іншымі), у якіх можна купіць ці заказаць усё, што патрэбна, і ў якіх няма ніякай чаргі. Часта сустракаюцца жоўтыя "школьныя аўтобусы", якія возяць у школу тых дзетак, якія жывуць больш чым за 1 мілю ад школы, ім поўны прыярытэт на дарогах. Каля дамоў -- невялікія паштовыя скрынкі, праз якія можна як атрымаць, так і пасылаць карэспандэнцыю і якія не паляць і не ломяць, як у нас. На многіх не толькі афіцыйных, але і прыватных дамах развяваецца амерыканскі сцяг, бо большасць жыхароў (і гэта гаворыцца з гонарам) -- "нацыяналісты", што тут разумеецца, як патрыёты. Выклікаюць зайздрасць адносіны да інвалідаў: усюды пра іх памятаюць, і таму ёсць розныя каляскі, спецыяльныя туалеты, сцежкі, прыступкі ў аўтобусах і г.д. Гэтыя людзі адчуваюць сябе нармальна, актыўна жывуць і нават смела ўсюды вандруюць.

Уразіў беларускі культурна-асветніцкі цэнтр "Полацак" у Кліўлендзе -- вялікі будынак на краі прыгожага зялёнага парку з сажалкай у нізіне, які нам з гонарам паказалі Янка Ханенка, Кастусь Калоша і інш. Тут мы прынялі ўдзел у службе ў царкве і ў пікніку, які амаль кожны тыдзень спраўляюць беларусы Кліўленда. Чулі зладжаны царкоўны хор пад кіраўніцтвам К.Калошы і цудоўныя песні ў выкананні многіх удзельнікаў хору "Васілёк" пад кіраўніцтвам Вольгі Лукашэвіч. З апетытам пакаштавалі смачную беларускую ежу, прыгатаваную нястомнай Евай Яраховіч. Сустрэліся з сучасным эмігрантам: баяніст-віртуоз, які бліскуча выконвае розныя рэчы ад класікі да частушак. Не можа знайсці працу па спецыяльнасці (зарабляў мыццём посуду ў рэстаране, зараз беспрацоўны), і таму ўвесь час вялікі сум у вачах, якія зноў святлеюць толькі тады, калі ён бярэ ў рукі баян. Янка Раковіч звазіў паглядзець адно з цудаў свету -- Ніягарскі вадаспад.

З Чыкага і яго мэрыяй нас пазнаёмілі Вера і Вітаўт Рамукі, якія бяруць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці: кожны год адзначаюць свята абвяшчэння незалежнасці БНР (у гэты дзень каля мэрыі Чыкага, як і ў некаторых іншых гарадах Амерыкі, уздымаецца беларускі сцяг), на Каляды робяць беларускую ёлку і г.д. Брат Веры -- Нікодэм Жызнеўскі ўзяў у нас інтэрв'ю для радыё, бо адзін раз у тыдзень вядзецца 10-хвілінная перадача на беларускай мове. З дзейнасцю Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Рады і беларускай праваслаўнай царквы Св. Юрыя пазнаёмілі нас Міхась Каленік і Мікола Латушкін.

Зноў "аднапавярховую" Амерыку мы больш падрабязна ўбачылі ў Гранд-Рапідс, дзе нас гасцінна прынялі Вера і Мікола Прускі. Апошні ў сваёй хаце мае маленькую друкарню, выдаў шэраг беларускіх кніг, а зараз адзін рэгулярна выдае газету "Беларускі дайджэст", многа аддае сіл у Цэнтры гуманітарнай медычнай дапамозе, у тым ліку і Беларусі.

У Таронта (Канада) адбылася 21-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якую арганізавалі Згуртаванне беларусаў Канады і Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне пад дэвізам: "За незалежную і дэмакратычную Беларусь". Сустрэча адбылася ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры (царква Св. Кірылы Тураўскага) і гатэлі Трумпф Говард Джонсан. У першы дзень абмяркоўваліся наступныя тэмы: генацыд у Курапатах; каардынацыя намаганняў за здабыццё незалежнасці і дэмакратыі Беларусі; узаемадзеянне паміж

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



старэйшым і малодшым пакаленнямі; справа дапамогі ахвярам чарнобыльскай бяды; нашы захады перад уладамі Канады і Злучаных Штатаў, што да іхняга спрыяння дэмакратычнаму працэсу і вольнарынкавым рэформам у Беларусі. На другі дзень адбылася літургія, якую правёў архіепіскап Мікалай, потым пленарны сход і канцэрт, а ўвечары -- сяброўская вечарына. Мерапрыемствы прайшлі пад кіраўніцтвам Міколы Ганько -- старшыні Згуртавання беларусаў Канады. Апрача нас, у сустрэчы ад Беларусі прынялі ўдзел прадстаўнікі БНФ Валянціна Трыгубовіч і народны дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Алесь Шут, а таксама былы старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Яўген Лецка. Былі атрыманы прывітанні ад губернатара штата Агаё і ад некаторых грамадскіх арганізацый ЗША і Беларусі. На жаль, ні прадстаўнікоў урада Беларусі, ні прывітання ад іх не было. На пленарным сходзе, які вельмі добра вяла Алеся Кіпель, выступілі М.Ганько, А.Шукелойць, Я.Сажыч (старшыня Рады БНР), А.Шут, Р.Гарэцкі, Я.Запруднік, В.Кіпель. Канцэрт адбыўся сіламі жаночага хору "Васілёк" (з дапамогай Кастуся Калошы і Анатоля Лук'янчыка), салістаў Вольгі Лукашэвіч, Любы Сергіевіч і Ларысы Стэльмашэнка.

Былі прыняты тры галоўныя дакументы: рэзалюцыя, заява пра палітычнае палажэнне на Беларусі і прывітанне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Сход завяршыўся спяваннем беларускага нацыянальнага гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На вячэры частавалі нас смачнымі стравамі беларускай кухні з амерыканскім ухілам, якія падрыхтавалі нашы працавітыя канадскія жанчыны-беларускі на чале з Марыяй Ганько.

Пасля сустрэчы, але ў яе рамках пад кіраўніцтвам Раісы Жук-Грышкевіч і айца Аляксандра Надсона адбылося паломніцтва да Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідлендзе.

З дапамогай М.Ганько мы разам з А.Шутам змаглі наведаць у Рычманд-Хіл (каля Таронта) Йоркскі цэнтральны шпіталь -- паліклініку разам з бальніцай, якая абслугоўвае Йоркскі раён. Па абсталяванню, камп'ютэрызацыі, абслугоўванню лепшую бальніцу цяжка ўявіць. Наша так званая лечкамісія не вытрымлівае ніякага параўнання і выглядае, як самая ўбогая ўстанова. Цікава, што ў шпіталі дапамагаюць у якасці нянек і іншых падсобных супрацоўнікаў дагледаць хворых добраахвотнікі, якія адзеты ў спецыяльныя ружовыя халаты. Хуткая дапамога так арганізавана ў раёне, што праз 3--5 хвілін яна прыязджае па выкліку.

Пасля вяртання ў ЗША Раіса Станкевіч (дачка вядомага літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Станіслава Станкевіча) адвезла нас у мястэчка Эленвіл у Кітсцільскіх гарах, дзе мы на дачы "Родны Кут" правялі незабыўныя два дні разам з Юляй і Паўлам Андрусышынымі -- бацькамі вядомага спевака Данчыка, яго бабуляй Янінай Каханоўскай, Эленарай і Лёняй Нурыкамі, Антонам Шукелойцем, суседзямі-украінцамі. Прыгожая мясцовасць, чыстае паветра і цудоўныя песні Данчыка па магнітафону спрыялі сяброўскай гамонцы на розныя тэмы. Давялося пабыць у гасцях у Вольгі і Масея Сяднёвых, у якіх слухалі вершаваныя і празаічныя словы Масеевы, елі смачную Масееву кашу і дыхалі салёным паветрам Атлантычнага акіяна, няспешна крочачы босымі нагамі па мяккаму пяску і пяшчотнай вадзе.

Хочацца перадаць самую шчырую сардэчную падзяку ўсім беларусам ЗША і Канады, з якімі мы бачыліся, за надзвычай цёплую сустрэчу. Дзякуючы ім, мы за акіянам адчувалі сябе спакойна і добра, як на Бацькаўшчыне. Было прыемна і радасна сустракацца з суайчыннікамі, якія так цудоўна захавалі чысціню беларускай мовы, замілаванне і любоў да Бацькаўшчыны, да беларускасці. Якія складаныя і цяжкія лёсы напаткалі большасць беларусаў! Рэаліі жыцця перавысілі ўсе самыя фантастычныя прыдумы! Мы з цікавасцю знаёміліся з вялікімі здабыткамі беларускага замежжа, з яго культураю, якія павінны зліцца ў адзінае рэчышча агульнай беларускай культуры. Мы адчулі, што большасць беларусаў, з якімі мы сустракаліся, гатовы разам з намі аддаць свае сілы дзеля ўсеагульнага адраджэння Беларусі і перш-наперш стварэння самастойнай дзяржавы. У гэтай справе нашы суайчыннікі могуць многа дапамагчы не толькі прапагандай Беларусі на ўсіх узроўнях, але і сваім уплывам на ўрады краін, дзе яны жывуць, спрыяючы правільнай іх палітыцы ў адносінах да Беларусі, дапамагаючы эканамічным накірункам дзейнасці, арганізуючы сумесныя прадпрымальныя структуры, і г.д. Тут неабходна агульнае супрацоўніцтва пасольстваў, прадстаўнікоў Беларусі ў ААН, а таксама розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Бацькаўшчыны з беларускімі эмігрантамі.

Мы ўбачылі, што ў беларусаў замежжа таксама існуе многа праблем. На жаль, адсутнічае адзінства паміж сабой -- раз'яднoўвае прыналежнасць да розных рэлігійных напрамкаў, да прыхільнікаў БНР ці БЦР, да крывічоў ці замежнікаў і г.д. Як і на Беларусі, няма адзінства ў дэмакратычных руках і партыях, якія так і не змаглі аб'ядна-ца на выбарах Прэзідэнта. Асабістыя амбіцыі перамаглі і нанеслі вялікія страты у здзяйсненні беларускай нацыянальнай ідэі. Няўжо так здарыцца і пры новых выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі? У ЗБС "Бацькаўшчына" Я.Лецка таксама вядзе раскольную працу: паціхеньку ад Рады стараецца стварыць альтэрнатыўную "Бацькаўшчыне" структуру -- Згуртаванне беларусаў Наваградчыны, куды заклікае і ўсіх беларусаў свету.

Узнікаюць важныя пытанні аднаўлення беларускага замежжа ў Паўночнай Амерыцы -- патрэбны маладыя сілы. Неабходна падрыхтаваць і свяшчэннаслужыцеляў для амерыканскіх цэркваў. Не менш важна захаваць архівы. Найважнейшыя матэрыялы, відаць, трэба перадаць на Бацькаўшчыну, але нядрэнна мець і апорныя архіўныя пункты -- магчыма, у Гайнаўцы для Еўропы і ў Кліўлендзе для Амерыкі. Абмяркоўвалася думка пра стварэнне Саюза беларускіх медыкаў. Вельмі карысны абмен студэнтамі, навукоўцамі, камерсантамі, арганізацыя ўзаемнага турызму, летнікаў, выстаў, канцэртаў, сустрэч дзеячаў культуры і навукі і г.д. Эмігранты могуць дапамагчы ў розных міжнародных мерапрыемствах, у тым ліку і спартыўных (напрыклад, у правядзенні Алімпійскіх гульняў, якія ў 1996 годзе адбудуцца ў ЗША) і г.д. Неабходна прыцягваць беларускіх эмігрантаў да напісання артыкулаў для энцыклапедый, наладзіць абмен друкаванай літаратурай, арганізаваць магчымасць падпіскі на розныя выданні Беларусі і г.д.

Каб дайсці нам, усім беларусам, -- і на Бацькаўшчыне, і ў замежжы -- да сапраўднай Беларусі, патрэбна аб'яднанне сілаў на шляху нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Вярталіся мы на Радзіму поўныя ўражанняў, карысных назіранняў, прапаноў, з больш яснымі перспектывамі ў працы ЗБС "Бацькаўшчына". У вялікім кантрасце з аэрапортамі ЗША, Канады, Ірландыі, якія поўныя людзей, розных магазінаў, рэстаранаў, кафэ, Мінскі аэрапорт сустрэў цішынёй і пустэчай мармуровых залаў... Дарэчы, страшна дрэнны сэрвіс, антысанітарны стан нашых туалетаў проста адпужваюць ад паездак на Беларусь замежных турыстаў, у тым ліку нават нашых суайчыннікаў. Так мы губляем турызм, а з ім багацце і прыцягальнасць краіны. Аб гэтым таксама былі размовы з многімі беларусамі замежжа. Разам з імі, прыляцеўшы на Беларусь, мы падумалі: "О, Беларусь! Калі ж ты станеш па-сапраўднаму культурнай, багатай, цывілізаванай дзяржавай?" Ці дачакаемся мы таго часу, для набліжэння якога мы гатовы зрабіць усё, што можам, не шкадуючы сіл і намаганняў?"

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына".**

# НАТО пагрозы не бачыць

**З 13 па 15 верасня ў рамках праграмы "НАТО—Беларусь-94" праходзіў візіт дэлегацыі Паўночнаатлантычнага саюза пад кіраўніцтвам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Аб'яднанымі ўзброенымі сіламі НАТО генерала Джона Уотэрса. Мэтай візіту з'яўлялася ўстанаўленне кантактаў з кіруючымі коламі нашай рэспублікі, а таксама вывучэнне магчымасці ўваходжання Беларусі ў праграму "Партнёрства дзеля міру".**

Па выніках візіту адбылася прэс-канферэнцыя Джона Уотэрса. На ёй натаўскі генерал паведаміў аб тым, што меў магчымасць сустрэцца з кіраўніцтвам рэспублікі, і гэтыя кантакты пакінулі добрае ўражанне. Акрамя таго, дэлегацыя наведала 120-ю Рагачоўскую дывізію.

Закрануў генерал і вельмі актуальнае для рэспублік СНД пытанне раззбраення. Некаторыя краіны былога Саюза маюць высокі патэнцыял абароннай прамысловасці, без якой эканоміку гэтых краін немагчыма ўявіць. Пры такім становішчы спраў гандаль зброяй непазбежны, адзначаў генерал.

Ад імя НАТО генерал Уотэрс запэўніў прысутных, што паўночнаатлантычны блок не бачыць для сябе патэнцыяльнай пагрозы ні ад адной рэспублікі былога Саюза. "Мы хочам сумесна з іншымі краінамі праводзіць толькі міратворчыя і гуманітарныя аперацыі і заклікаем да гэтага сваіх новых партнёраў", - сказаў Джон Уотэрс.

"Наша Слова"

# Як здарылася, што Жамойць пачала называцца Літвою?

Жамойць (лацінская форма — Самагіція, польская — Жмудзь) — гэта гістарычная вобласць па ніжнім цячэнні Нёмана і ўзбярэжжы Балтыйскага мора, заселеная плямёнамі балтаў. У 1422 годзе, у часе княжання Вітаўта, яна была канчаткова далучаная да Вялікага Княства Літоўскага і стала яго неад'емнай часткай. З часам нашы продкі пачалі называць жамойтамі не толькі насельнікаў уласна Жамойці, але і роднасныя ім плямёны.

**Умовы для замацавання за Жамойцяй назову «Літва» склаліся ў XIX стагоддзі. Дзеячы жамойцкага нацыянальнага адраджэння для забеспячэння свайму руху гістарычнай асновы выкарысталі — у якасці этнічнага — найменне старадаўняй беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, а не сваю, спрадвечную, назву Жамойць (якая, дарэчы, шырока ўжывалася і ў XIX стагоддзі, але не асацыявалася з уяўленнямі пра развітую старажытную дзяржаўнасць).**

**Зразумела, яны прысвоілі не толькі найменне «Літва», але і заявілі пра свае выключныя правы на гістарычную і культурную спадчыну нашае старадаўняе дзяржавы і, у прыватнасці, на яе сімволіку. А паколькі ў жамойцкай мове не было нават слова для абазначэння галоўнага дзяржаўнага сімвала Вялікага Княства, жамойцкія адраджэнцы прыдумалі яго. Зрабіў гэта гісторык С. Даўкантас у 1845 годзе, назваўшы нашую «Пагоню» наватворам «Віціс».**

**Тым часам нашы прадзеды аж да канца XIX стагоддзя захоўвалі саманазоў «ліцьвіны». Але, на жаль, беларускае нацыянальнае адраджэнне запазнілася, пачалося значна пазней за жамойцкае. Нашы адраджэнцы, пачынаючы з Ф. Багушэвіча, ужо не маглі карыстацца спрадвечным саманазовам «ліцьвіны» і змушаны былі прыняць найменне, якое тады было ўжо даволі пашыранае на Смаленшчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне і выкарыстоўвалася расейскім друкам,— «беларусы».**

**Канчатковая назва «Літва» ў форме «Летува» афіцыйна была замацаваная за Жамойцяй 16 лютага 1918 года актам аб незалежнасці, і, такім чынам, быў пастаўлены знак роўнасці паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Летувой.**

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ.**

## OPERATION BELARUŚ

***A project to improve children's dental health***

**Office of International Academic Affairs**
**The University of Western Ontario**
**London, Ontario, Canada N6A 5B8**

Boris D. Ragula, MD
Chair
Office Telephone: (519) 667-2264
Home Telephone: (519) 432-5164
Fax: (519) 672-2502

MEMBERS OF THE BOARD
Tom Goving
Arthur H. Headlam
Frederick J. Keenan
Mary Hanley Rodney
Charles A. Ruud
Gerald Z. Wright

## *ПРАЕКТ ДЗІЦЯЧАЙ ДЭНТЫСТЫЧНАЙ КЛІНІКІ Ў МЕНСКУ.*

У верасьні гэтага году мінула чатыры гады існаваньня Канадыйскага Фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

У Лёндане (Канада) было заўважана, што стан зубоў у дзяцей, якія тут гасьцілі, быў амаль жахлівы. Тутэйшая Ўнівэрсытэцкая клініка згадзілася гэтых дзяцей падлячыць. Рэзультат трохгадовага дасьведчаньня падказаў вялікую патрэбу адшукаць нейкі шлях дапамогі дзецям у Беларусі. Prof. Dr. Gerald Wright, Professor and Chairman Orthodontis and Pediatric Dentistry at the University of Western Ontario, распачаў акцыю па заснаваньні дэнтыстычнай клінікі ў Менску. Ён наведаў Беларусь і пабачыў там вельмі прымітыўныя мэтады лекаваньня зубоў. У выніку яговых захадаў наш Унівэрсытэт пагадзіўся заняцца арганізацыяй такой клінікі ў Менску. Праект распрацаваны на 5 гадоў. Прыблізны кошт— $500.000 канадыйскіх даль. Пачатковыя выдаткі на першы год вынясуць прыблізна $12.000. Лёнданскі Ўнівэрсытэт вельмі зацікаўлены ўдзелам нашага грамадзтва пры запачаткаваньні гэтага праекту. Калі мы зможам зрабіць добры пачатак, тады Унівэрсытэт зоймецца далейшым зьбіраньнем патрэбных фондаў на зьдзейсьненьне гэтага праекту. Камітэт для пабудовы клінікі ў Менску складаецца з наступных асобаў:

1. Dr. Barys Ragula MD, CCFP, retired Prof. of Medicine, UWO, Chairman
2. Dr. Gerald Wright, Prof. of dentistry
3. Dr. Charles Ruud, Prof. of russian history
4. Fredrick J. Keenan, PhD., P. Eng., Director of International Academic Affairs

Я зьвяртаюся з заклікам да нашых грамадзкіх арганізацыяў, рэлігійных прыходаў ды прыватных асоб дапамагчы нам зрабіць гэты важны пачатак. Гэта будзе дар нашай дыяспары для дзяцей на Бацькаўшчыне... Ахвяры можна адлічваць ад падаткаў як у Канадзе, так і ў Злучаных Штатах. Усякая ахвяра лічыцца вельмі важнай... Я веру, што гэты праект зрэалізуецца і ўсе мы будзем гордымі з яговай рэалізацыі.

Др. Барыс Рагуля

Чэкі высылаць просім на: University Western Ontario, for Clinic in Miensk, to address: Dr. B. D. Ragula, 579 Willowdale Ave. London, Ont. N5X-1J2 Canada

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



IN MEMORIAM

Сьвятой † Памяці
## АЛЯКСАНДАР ЛУК'ЯНЧУК



30 жніўня 1994 г. у мястэчку недалёка ад Кліўледу на 85 годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць Аляксандар Лук'янчук, пакінуўшы ў смутку чатырох сыноў – Анатоля, Сяргея, Андрэя і Янку з сем'ямі ды дзьве дачкі – Марыю і Галю таксама з сем'ямі. Смуткуюць па дзеду таксама шматлікія ўнукі ды праўнукі, ды вялікая колькасьць прыяцеляў і знаёмых.

Паховіны сьв. Пам. Аляксандра Лук'янчука адбыліся 2-га верасьня 1994 г. з Беларускай Праваслаўнай царквы ў Кліўлендзе на магільнік Рывэрсайд у Кліўлендзе, штат Огайё. Пахавальны абрад выканаў а. Міхась Страпко.

Сьв. Пам. Адяксандар Лук'янчук нарадзіўся 21-га жніўня 1909 г. у Берасьці (Брэст Літ.) у Беларусі.

У ЗША Сьв. Пам. Аляксандар Лук'янчук прыехаў з жонкай Мартай і ўсёй сям'ёй у 1951 годзе.

Пасяліўшыся ў Кліўлендзе, уся сям'я Лук'янчукоў адразу ўлілася ў рэлігійнае і грамадзкае жыцьцё беларускае калёніі Кліўленду. Сьв. Пам. Аляксандар Лук'янчук быў вельмі актыўным у працы на карысьць беларускае незалежніцкае ідэі на ўсіх дзялянках адраджэнскае нівы.

Сьв. Пам. Аляксандар Лук'янчук быў вялікім і адданым патрыётам Беларусі ды шчырым вернікам свае Праваслаўнае Аўтакефальнае Беларускае царквы.

Няхай Успамін аб Ім вечна жыве ў сэрцах тых, хто Яго ведаў!

Хай будзе пухам Яму прыбраная, свабодалюбная амэрыканская зямля!

*ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!*

# Мне обидно и больно...

Здравствуйте, уважаемая редакция "Народной газеты"!

Пишу вам в очередной раз, я уже не раз вам писала и просила напечатать мое письмо, но, увы, этого ни разу не случилось. И вообще вы очень мало публикуете писем читателей. А зря, может быть, товарищ президент прочитал бы их, и у него поубавилось бы такой уверенности, что 80% белорусов согласны присоединиться к России и продать свою Беларусь. Ни при каких условиях, ни за какие блага я не соглашусь на соединение с Россией. Так же думают и многие, с кем я разговаривала. Мы будем жить в свободной Беларуси и не собираемся лезть в ярмо к Жириновскому. Мне было обидно и больно слушать, как президент на встрече со студентами и профессорами перекривлял белорусский язык. И, между прочим, он это делает уже не в первый раз. Приезжают люди из дальнего зарубежья, иностранцы, и разговаривают на белорусском языке, а президент Беларуси — на русском. Абсурд! Правильно говорил Позняк, что т.Лукашенко не любит Беларусь, а белорусский язык он просто ненавидит. На этой встрече присутствовали образованные люди, и были, конечно, среди них и белорусы. И с каким восторгом они аплодировали! Что говорить о несчастном запутавшемся народе. Народ голосовал против Кебича и его команды. А посмотрите, как все возвращается потихоньку обратно. Лукашенко окружает себя русскими и бывшими секретарями КПБ. Что, у нас нет кроме них умных людей? Прочитала в субботнем номере за 3—5 сентября письмо Геннадия Пахома из Молодечно и от души порадовалась. Не все белорусы еще превратились в безмолвное быдло. Есть еще люди, и их немало, не потерявшие гордость, совесть и разум. Люди, не торгующие Родиной, а дорожащие и уважающие ее. Как это делают прибалты, чехи, поляки и др., которые национальную гордость берегут как зеницу ока. Хотя много среди белорусов и таких, которым все равно, на каком языке разговаривать, с кем соединяться, кому подчиняться. Лишь бы не быть свободными. Им это слово непонятно. Не думают о себе, так подумали бы хоть о своих детях и внуках. Ведь они когда-то проклянут их. Другие страны идут к свободе, к благополучию,- а мы все топчемся на месте да заглядываем в рот "старшему брату". Стыд и позор!

До свидания.

**С уважением**
**Ядвига КОТЛЯР.**

*г.Барановичи.* — Народная газета

# Ратуй нас, Божа!

**Божа, які ты ёсць на небе, звяртаюся да цябе! Бо вельмі галосіць душа і балюча на сэрцы. Хачу пачуць, Усявышні, за што пакараў маю шматпакутную Зямлю-матухну? Чым жа яна вінаватая перад табою?**

**Галашу і ўспамінаю той дзень, калі я з маці ляпіла градкі ў агародзе, а неба над маімі, патанаючымі ў садовай квецені, Калінкавічамі было блакітнае-блакітнае, сонца ззяла ласкава і пяшчотна, прыносячы асалоду. І не падказаў ты, Божа, што ўсё гэта — і сонца, і неба, і паветра вакол — пасыпана чарнобыльскім попелам. Шаноўны Уладыка, чаму не папярэдзіў ты і І Мая, калі я з маці, узяўшы ў рукі прыгожыя сцяжкі, разам з іншымі дзецьмі і дарослымі ішла на святочную дэманстрацыю, а з неба падала і падала нябачная радыяцыя...**

**Які жах успамінаць цяпер усё гэта і працягваць жыць сярод стронцыю і цэзію. Прымі нізкі паклон, Ойча, за тое, што ты пераканаў нашых добразычліўцаў і яны адправілі мяне і шмат такіх, як я, у піянерскія лагеры. Мне было добра ў "Холдрэ", але ж на маёй зямлі заставаліся родныя, блізкія. А хто паклапаціўся пра іх? У чым іх віна?**

**А ў чым віна Андрэя Паліўнікава, якому нядаўна мы збіралі грошы для аперацыі? А за што прагневаўся ты, Божа, на Андрэя Калацэя, чатырнаццацігадовага сына маёй настаўніцы па фізіцы, які пакутуе ў Бараўлянах ужо другі год? Адкажы, Уладыка, малю цябе, бо нестае больш сілы глядзець на засмучаную маю настаўніцу і на пустую парту ў 9-м "А", што чакае свайго вучня. Дапамажы яму, Госпадзі, ён так любіць сваю малодшую сястрычку і часта сустракаў яе са школы — яна баіцца цемры. Ён так любіць дапамагаць сваёй маці /яна шмат працуе і вельмі стамляецца/. Дапамажы яму выжыць, Ойча, выжыць усім, хто хварэе, каго падкасіла радыяцыя, хто спадзяецца ўжо толькі на цябе.**

**Вялікі дзякуй табе, Божа, што ахоўваеш маю сям'ю ад смяротнага ўздзеяння радыёнуклідаў. Мне толькі 16 год. Вельмі цяжка жыць, пазіраючы на пакуты знаёмых, на здзек з маці-зямлі, на неба, ужо не такое блакітнае, якое было раней.**

**Божа, калі ты ёсць на свеце, зрабі так, каб па-ранейшаму весела спявалі птушкі, каб ішоў спорны дождж на палеткі, калі яны просяць піць, і дождж быў без стронцыю, каб суседзі-пенсіянеры па-ранейшаму спявалі "Шумяць вербы каля грэблі" ці "Ой, аралі хлопцы ніву", сабраўшыся вечарам на лавачцы каля хаты маёй бабулі, а не пералічвалі чарговыя ахвяры Чарнобыля сярод сваіх знаёмых.**

**Я абяцаю табе, Божа, маліцца кожны дзень за ўсіх тых, каго люблю, паважаю, толькі пачуй мой плач, выратуй маю зямлю, маю Бацькаўшчыну.**

**Няхай свяціцца імя тваё, Усявышні, дзень і ноч, ахоўваючы нас, тваіх дзяцей, накіроўваючы на правільны шлях, аберагаючы ад спакусы, даючы жыццёвыя сілы і мудрасць. Ратуй нас, Божа!**

**Таццяна АКУЛЕВІЧ,**
**вучаніца 10-га класа**
**Калінкавіцкай СШ N6**

*"НАБАТ"*

# ПРЭЗІДЭНТЫ

*Ніва*

Падчас выбарчай кампаніі ў Беларусі, а нават яшчэ сёння можна пачуць, што Аляксандр Лукашэнка — гэта беларускі Жырыноўскі. Не ведаю, як Лукашэнка ставіцца да Жырыноўскага, але ў нічым або амаль у нічым яго не напамінае. Прэзідэнт Беларусі перш за ўсё ні імперыяліст, ні шавініст. Не збіраецца ён, так як Жырыноўскі, дзяліць чужыя дзяржавы ці вырашаць лёс суседніх народаў. З лідэрам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расеі спалучае яго толькі зацікаўленне парапсіхалагічнай літаратурай і метадамі палітычнай барацьбы за ўладу. На практыцы абазначае гэта, што трэба гаварыць людзям тое, што яны хочуць пачуць. Але каб ведаць, чаго людзі хочуць слухаць, трэба пазнаць, што скрываецца ў іх нутры. Палітычныя здольнасці і інтуітыўнае распазнанне псіхалогіі грамадства гэта замала, каб дасягнуць такі поспех, які атрымаў Лукашэнка на прэзідэнціх выбарах. Народ паверыў яму, як нейкаму здаўна чаканаму збаўцу. Заканамернасць характэрная Усходняй Еўропе гэта ці выпадковасць?

Калі, аднак, шукаць падабенстваў у Лукашэнкі да кагосьці з вядомых палітыкаў, дык найбольш ён нагадвае прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсу. Адзін і другі зрабілі ашаламляльную палітычную кар'еру, пра якую можна дагэтуль было толькі прачытаць у нейкай казцы. Рабочы і адміністратар калгаса, не кіруючыя раней ніякай дзяржаўнай структурай, рашыліся непасрэдна ўзяць найвышэйшы пост у сваіх краінах. Выбарчую кампанію вялі яны, змагаючыся перш за ўсё з кандыдатамі са свайго лагера (Мазавецкі, Кебіч). Адзін і другі гаварылі пра зладзеяў, якія раскрадаюць дзяржаву і абяцалі ўсіх іх вылавіць, пакараць і канфіскаваць іхнюю маёмасць. Абяцалі навесці парадак і справядлівасць, а добрасумленым, высакародным і прафесіяналам даць уладу. Ні Валэнса, ні Лукашэнка, пачынаючы свае кар'еры, не мелі ніякіх праграмаў ні канцэпцыі палітычнага ці эканамічнага ладу ў сваіх дзяржавах. На практыцы кіраванне аказалася імправізацыяй, залежнай ад варункаў, якія існуюць у даны момант на палітычнай сцэне. Мяняюць яны людзей, хваляць тое, што ўчора крытыкавалі і наадварот — крытыкуюць тое, што ўсхвалялі. Усе лозунгі, якія гучалі падчас выбарчай кампаніі, месяц пазней апынуліся на сметніку гісторыі, як нічога нявартыя.

Валэнсу і Лукашэнку перш за ўсё імпануе ўлада. Яна для іх — мэта сама ў сабе. У Польшчы ўжо трэці год вядзецца дыскусія, ці прэзідэнт павінен мець больш улады чым урад і парламент разам. У Беларусі Лукашэнка мае ўжо ўладу не меншую, чым манарх у сярэднявяковай дзяржаве, але ўсё яшчэ дамагаецца пашырэння паўнамоцтваў так, каб мець магчымасць уплываць на ўсе галіны грамадскага жыцця. Найгоршае тое, што ён не ведае нават як выкарыстаць уладу, якую дае яму канстытуцыя. Адсутнасць ідэі дзяржаўнага парадку, праграмы гаспадарчай рэформы вядзе да нервовых жэстаў, непрадуманых выказванняў, асмяшаючых высокі пост і беларускі народ у вачах суседзяў. „Беларусь — краіна агуркоў" — пішуць тады маскоўскія газеты.

Шмат што, аднак, адрознівае Валэнсу і Лукашэнку. Валэнса з'яўляецца сімвалам патрыятызму і незалежнасці свае дзяржавы і народа. Гэтага ў ніякім выпадку нельга сказаць пра прэзідэнта Беларусі. У карысць Лукашэнкі можна аднак сказаць тое, што гаворыць ён вельмі лагічна і пераканаўча і ніякі беларускі Урбан, цытуючы яго выказванні, не будзе мець нагоды да пастаянных здзекаў з „бацькі народа". Супрацоўнікі прэзідэнта Беларусі маюць менш нагод паясняць грамадству, што іх шэф думаў і што хацеў сказаць. Дарэчы, сам прэідэнт у сродках масавай інфармацыі не лянуецца расказваць пра свае праблемы. Гэтыя выступленні не маюць высокага ўзроўню абстрактнасці, так характэрнага палітыкам заходніх краін. Мова Лукашэнкі (расейская) — простая і зразумелая, напоўненая зместам слоў і паняццяў, якімі карыстаюцца рабочыя, салдаты, бюракраты, калгаснікі. Выглядае на тое, што прэзідэнт так думае, як гаворыць. Ён на свой спосаб шчыры. Праблемы Беларусі аднак надта складаныя, каб рашаць іх паводле калгасных схемаў.

Прэзідэнт Валэнса толькі на пачатку кадэнцыі хацеў збаўляць эканоміку і раздаваць грамадзянам мільёны. Пасля займаўся ўсім, толькі не гаспадаркай. І за гэта палякі павінны быць яму ўдзячны. Лукашэнка толькі пачаў фінансавыя эксперыменты і зараз жа выклікаў паніку сярод прадпрымальнікаў. Цяжка прадбачыць, што будзе далей, але здаецца, што прэзідэнт Беларусі не збіраецца ісці следам Леха Валэнсы і адмаўляцца ад кіравання гаспадарчымі працэсамі свае краіны.

**Яўген Міровіч**

*<u>ДАЛЕЙШЫЯ</u>*

Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:

| | |
|---|---|
| 35. Кастусь Вайцяхоўскі | $50.00 |
| 36. Уладзімер Траскевіч | $100.00 |
| Разам: | $150.00 |
| Папярэднія ахвяры: | $985.00 |
| Разам: | $1135.00 |

<u>Дарагія Чытачы!!!</u>

Зрабіце ўсё магчымае, каб і Вашае прозьвішча зьявілася на чарговай лісьце Ахвярадаўцаў на Музэй! Пры перасылцы чэкаў, калі ласка, рабіце дакладную паметку, што прызначаецца на <u>Музэй</u>, а што на <u>Газэту</u>...

***Рашэнне, аб неабходнасці якога так доўга гаварыла апазіцыя БНФ у парламенце, прынята: беларускі рубель стаў адзіным плацёжным сродкам не тэрыторыі краіны, альбо, як прыгожа называюць нашыя банкіры, нацыянальнай валютай. Вярхоўны Савет зрабіў тое, супраць чаго змагаўся 2—3 апошнія гады. Аднак ці не запозна?.. Сёння для лячэння даведзенай Вярхоўным Саветам і ўрадам да комы эканомікі патрэбны больш радыкальныя меры, на якія, на жаль, яны не здольныя. Да таго ж і час для валютызацыі «зайчыка» абраны не самы лепшы: пасля «абвалу» расійскага рубля ў Маскве гэтакі ж самы абвал «зайчыка» пачаўся і ў нас. І калі ў Маскве прэзідэнт прыняў «сілавыя меры» і вярнуў драўлянаму страчаную вартасць, то ў нас, па ўсім відаць, пра стабілізацыю, хай і ўмоўную, сваёй валюты ніхто не думае...***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018